ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАЕЎ ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ДЭКАДНІК

СЭКТАРУ КНІГАГАНДЛЮ ДзВБ

№ 6 (12) | РАССЫЛАЕЦЦА ПА ЎСЕЙ СЕЦІ КНІГАГАНДЛЮ ПА РАЗЬВЁРСТЦЫ | АДРАС РЭДАКЦЫІ Менск, Пляц Волі 5, тэл. № 7—41 | 29 лютага 1932 г.



## АРГАНІЗУЕМ АБСЛУГОЎВАНЬНЕ КНІГАЮ ВЕСНАВОЕ СЯЎБЫ НА АСНОВЕ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ МЭТАДАЎ ПРАЦЫ—УДАРНІЦТВА, СОЦСПАБОРНІЦТВА І СУСТРЭЧНЫХ ПЛЯНАЎ



## ЧАРГОВЫЯ ЗАДАЧЫ КНІЖНЫХ ПРАЦАЎНІКОЎ.

Чарговыя задачы кнігагандлёвых арганізацый і кніжных працаўнікоў выцякаюць з пастановы ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб правядзеньні 3-е бальшавіцкае сяўбы. Кніжныя працаўнікі, як асноўныя кадры распаўсюджвальнікаў бальшавіцкага друку, павінны стаць на чале рэалізацыі кнігі да 3-е бальшавіцкае вясны.

Кніга, як зброя пабудовы соцыялізму, павінна стаяць у час веснавое сяўбы настольным дапаможнікам кожнага колгасьніка, саўгасьніка і рабочага МТС, у пасьпяховым выкананьні задач 3-е бальшавіцкае вясны. Практычнае правядзеньне гэтага мерапрыемства ў жыцьці залежыць ад кожнае кнігагандлёвае адзінкі, ад кожнага прадаўца кнігі.

Каб лепш абслугоўваць кнігаю барацьбітоў 3-е бальшавіцкае вясны, кнігагандлёвым арганізацыям патрэбна перабудаваць штодзённую працу кожнага кніжнага працаўніка, праводзячы яе на аснове ўдарніцтва і соцспаборніцтва. Неабходна скарыстаць усе мэтады масавае працы, дзе шляхі для лепшага прасоўваньня масава-палітычнай і сельска-гаспадарчай літаратуры ў колгасы, саўгасы і МТС. Патрэбна зьвярнуць належную ўвагу на эканомічны профіль і спэцыялізацыі раёну.

Канкрэтныя мерапрыемствы ў разгортваньні гэтае кампаніі павінны быць наступныя:

Вылучыць брыгады непасрэдна з колгаснага і саўгаснага актыву для популярызацыі і распаўсюджваньня масава-палітычнай і сельска-гаспадарчай літаратуры.

Сваячасова інфармараваць колгасы, саўгасы і МТС пра літаратуру, якая вышла з друку, асабліва, пра масава-палітычную і сельска-гаспадарчую. Скарыстаць для гэтай мэты пасылку каталёгаў „Дэкадніка“ і спэцыяльных паведамленьняў.

Палепшыць абслугоўваньне кнігаю шляхам папаўненьня асортымэнту колгасных і саўгасных бібліотэк новаю літаратураю. Кніжным працаўнікам трэба пацікавіцца асортымэнтам літаратуры колгасных і саўгасных бібліотэк—адчысьціць іх ад ідэолёгічна-шкоднай літаратуры.

Забясьпечыць кнігаю на нацмовах саўгасы колгасы, дзе ёсьць працоўныя нацменшасьцяў.

Пажадана ў час веснавое сяўбы арганізаваць агітфурманкі па саўгасах, колгасах і МТС пад кіраўніцтвам палітычна разьвітага таварыша, што разам з продажам літаратуры даваў-бы адказы на запытаньні саўгасьнікаў і колгасьнікаў.

У буйных саўгасах і колгасах трэба практыкаваць выезды брыгад кніжных працаўнікоў разам з прадстаўнікамі грамадзкіх арганізацый для правядзеньня масавай працы з кнігаю.

Патрэбна арганізаваць брыгады кніганошаў з вучняў і піонэраў пад кіраўніцтвам настаўніцтва для распаўсюджваньня літаратуры. Аднachасова кніганошам трэба будзе абыходзіць па хатах, саўгасьнікаў, колгасьнікаў і аднаасобнікаў—беднякоў і сераднякоў.

Кнігагандлёвым арганізацыям трэба трымаць шчыльную сувязь з комсамольскімі і піонэрскімі арганізацыямі, якія будуць застрэльшчыкамі ў ажыцьцяўленьні задач прасоўваньня масава-палітычнае і сельска-гаспадарчае кнігі.

На фабрыках і заводах правесьці популярызацыю літаратуры праз інформацыі на агульных сходах, у час перапынку на абед, праз чырвоныя куткі, шматтыражкі і насьценныя газэты. Арганізаваць на фабрыках і заводах часовыя кніжныя шкафчыкі і кніжныя вітрыны для продажу літаратуры.

Кніжным працаўнікам трэба дабіцца максымальных тэмпаў ў распаўсюджваньні масава-палітычнае і сельска-гаспадарчае літаратуры памятаючы, што студзень і люты месяц не далі належных вынікаў у гэтым напрамку.

Усю працу па абслугоўваньні кнігаю 3-а бальшавіцкае вясны трэба ўвязаць з працаю па выкананьню і перавыкананьню якасных і колькасных паказальнікаў гандальфінпляну 1-га кварталу 1932 г.

# АПЭРАТЫЎНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

## ВЫШЛІ З ДРУКУ

### МАСПАРТПАЛІТсэктар

**Яраслаўскі.** Змаганьне супроць рэлігіі і нацыялізму—змаганьне за соцыялізм. (Прамова Яраслаўскага на 3-м пленуме ЦССВБ—май 1931). ст. 15 т. 5.000 ц. 5 кап.

### СЕЛЬГАСсеэктар.

**Рэйтэрштэйн.** Палявы рамонт трактароў і сельска-гаспадарчых машын. ст. 100 т. 5.000 ц. 65 кап.

**Гуржы.** За будаўніцтва пладова-гароднай консэрвнай прамысловасьці ў БССР. ст. 40 т. 5.000 ц. 20.

**Пратэсэня.** Кіслотнасьць глеб Меншчыны і пытаньні вапнаваньня іх. ст. 108 т. 3.000 ц. 1 р. 30 к.

**Трактарная 24-х дыскавая сеялка заводу Растоў-Сельмаш.** (Правілы для рабочых па доглядзе і абыходжаньні з трактарамі і прычэпнымі машынамі). ст. 32 т. 2.000 ц. 15 кап.



**Тупяневіч. С. і Роўдо А.** Барацьба з грыбнымі хваробамі ў садзе і гародзе. ст. 28 т. 5.000 ц. 10 к.

**Барадзёнак А. І.** Заразныя хваробы жывёлы, якія не пераходзяць на чалавека. ст. 24 т. 7.000 ц. 10 к.

**Бязьдзенка Т.** Гародныя хваробы і шкоднікі і меры барацьбы з імі. ст. 48 т. 5.000 ц. 50 к.

**Лемеш.** Кармленьне племянных сьвіней. (Для тэхнікаў, сьвінаводаў, старэйшых сьвінароў рабочых сьвінагадоўчых саўгасаў і колгасьнікаў) Вып. II. ст. 96 т. 7.000 ц. 25 к.

**Сейце клубнякараньплоды для сьвіней.** ст. 8 т. 30.000 ц. 3 кап.

**Сухараў.** Сельска-гаспадарчая эканомія і соцыялістычная рэконструкцыя. ст. 304 т. 3.000 ц. 2 р.

**Таўкачоў А. і Савіч С.** Як праверыць якасьць насеньня. ст. 32 т. 10.000 ц. 10 кап.

**Арлоў.** Хваробы цялят. ст. 40 т. 7.000 ц. 15 кап.

### ВАЙСКОВЫсектар.

**Рэзолюцыя 3-й Усебеларускай нарады сакратароў ячэек УсеКП(б).** (7—11) мая 1931 г.) ст. 76 т. 3.000 ц. 35 к.

**Даліцкі.** За што судзіць ваенны трыбунал. ст 56 т. 3.000 ц. 20 к.

**Палякоў.** Памятка наводчыку па доглядзе і зберажэньні ручнога кулямёта Дзяхцярова. ст. 40 т. 3.000 ц. 5 кап.

**Шнэйдэр Р. і Сакалова К.** Школы ў час вопытнай мобілізацыі. (Пад рэдакцыяй Клінбэрга ) ст. 76. т. 5.000 ц. 40 к.

**Садавы.** Аўтамабіль на службе ў арміі. ст. 40 т. 3.000 ц. 15 к.

**Кальцоў.** Хачу лятаць. ст. 98 т. 3.000 ц. 60 к.

**Аляксееў і Харыкаў.** Падрыхтоўка кулямётніка-Дзехцяроўца. ст. 88 т. 3.000 ц. 70 к

**Дзюбінскі.** Як арганізаваць падрыхтоўку чырвонармейцаў да палітзаняткаў. ст. 20 т. 3.000 ц. 20 к.

### ЭКПРАЎсэктар.

**Шмідт.** Як чалавек зрабіўся чалавекам. (бібліотэка для малапісьменных.) ст. 74 т. 5.000 ц. 35 к.

**Лодысеў С.** Райвыканкомы і Сельсаветы. ст. 92 т. 7.000 ц. 40 к.

**Левентант.** За бязбожнае ўдарніцтва. (Вопыт работы бязбожнікаў заводу імя Пятроўскага і Леніна) ст. 38 т. 5.000 ц. 10 к.

**Ціхон А.** Па новаму арганізаваць працу. т. 38 т. 5.000 ц. 20 к.

**Мірошнікаў.** Фінансы, крэдытная рэформа і гаспадарчы разьлік, ст. 52 т. 5.000 ц. 20к.

**Канаплін.** Гарсаветы БССР на шляхох перабудовы сваей работы. ст. 106 т. 5 000 ц. 45 к.

### ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІсэктар.

**Лайцэн Л.** Заклікаючыя карпусы. ст. 136 т. 3.000 ц. 1 р.

**Барбюс А.** Расія. ст. 212 т. 3.000 ц. 75к.

### ЮНДЗЕТсэктар.

**Нікіфараў.** Мураўі рэволюцыі. Вып. I. ст. 120 т. 5.000 ц. 35 к.

**Баранаў С.** Юныя тэхнікі ў колгасе. (Для дзяцей старэйшага ўзросту). ст. 152 т. 5.000 ц. 50.

**Ладны.** Гультай. ст. 16 т. 5.000 ц. 20

**Лебедзеў.** Наступ па полюс. ст. 174 т. 5.000 ц. 1 р.

**Булатаў.** Праца і тэхніка ў атрадзе і школе ўлетку. ст. 54 т. 5.000 ц. 15 к.

**Чарняўская.** Лявонка. Апавяданьне. ст. 32 т. 5.000 ц. 25 к.

**Ольмінскі М.** У турме. (Успаміны старых бальшавікоў) ст. 216 т. 3.000 ц. 70 к.



### ВУЧПЭДсэктар.

**Праграма па беларускай і рускай мовах** для V, VI і VII груп ФЗС і ШКМ. ст. 16 т. 5.000 ц. 15 к.

**Праграма па хэміі для V, VI і VII груп ФЗС і ШКМ.** ст. 18 т. 5.000 ц. 20 к.

**Мархілевіч і Чыбісоў.** Органічная хэмія. ст. 168 т. 3.000 ц. 1 р. 25 к.

**Асновы прыродазнаўства.** Часопіс падручнік для завочных камуніст. унівэрсытэтаў, камсамольскіх унівэрсытэтаў і саўпартшкол. Вып. 1 ст. 152 т. 6.000 ц. 1 р.

**Каржова Н.** Грамата ў дашкольных установах і 0 групах школ. ст. 24 т. 6.000 ц. 15 к.

**Кобзіт і Радкевіч.** Рабочая кніга па прыродазнаўстве для вячэрніх школ I ступені. (Складзен паводле праграмы вячэрніх школ) т. 50000 ц. 95 к.

### ПЭРЫЯДсэктар.

**Чырвоная Беларусь.** № 24 (Сьнежань 1931 г. ст. 16 т. 7.500 ц. 15 к.

**Полымя** кніга 10. (Кастрычнік 1931.) ст. 184 т. 1.600 ц. 1 р.

**Комуністычнае выхаваньне.** № 12 (Сьнежань 1931 г.) ст. 104 т. 4.500 ц. 80 к.



### НАЦсэктар.

(На яўрэйскай мове)

### МАСПАРТПАЛІТсэктар.

**Постышаў.** За бальшавіцкае выхаваньне новых кадраў КСМ. ст. 24 ц. 10 к.

**Вішнякова.** Работніца і сялянка ў рабочым руху ў Кітае. ст. 28 ц. 15 к.

### СЕЛЬГАСсэктар.

**Громаў.** Як арганізаваць грама зкае харчаваньне ў колгасах. ст. 28 ц. 15 к.

**Правікоўскі.** Як скарыстаць дрэнныя землі ў колгасах. ст. 60 ц. 25 к.

**Крываносаў.** Як скарыстаць гной. ст. 14 ц. 10 к.

### ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІсэктар.

**Кальцоў.** Звезданосцы. ст. 76 ц. 60 к.

**Зібін і Карцман.** У бацькаўшчыне сусьветнага пролетарыяту. ст. 88 ц. 60 к.

### ЮНДЗЕТсэктар.

**Трызна.** Шавец-волат. ст. 48 ц. 40 к.

**Назараў.** Як дзеці навучыліся кіраваць аўтамабілям ст. 58 ц. 50 к.

### ВУЧПЭДсэктар.

**Беркут, Паперэк і інш.** Рабочая кніга па матэматыцы ч. II ст. 440 ц. 2 р. 25 к.

**Праграма па яўрэйскай мове.** ц. 15 к.

(НА ПОЛЬСКАЙ МОВЕ.)

**Богат А.** Жанчына—баец Чырвонае арміі. стар. 28, ц. 15 к.

НА ЛІТОЎСКАЙ МОВЕ.

**Горкі М.** 9-е студзеня. стар. 20, ц. 15 к

**Зарэчная С.** Дзеці ў колгасе. стар. 46 ц. 25 к.

**Маскалёў.** Малочная гаспадарка. стар. 22. ц. 15 к.

**Сінявока і іншыя.** Па ленінскім шляху, стар. 108, ц 1 р. 15 к.

